


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 32 (1119) ГОД XXII БЕЛАСТОК 7 ЖНІЎНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




**Ля дарогі з Кляшчэляў у Бельск за вёскай Маліннікі ў альшынавым пералеску цэлае лета пасецца велізарная чарада авечак Галены і Мікалая Лукашукоў з Пашкоўшчыны.**

## З рэпарцёрскіх запісак




Гэтую чараду бачыў я даволі часта. Яна паслася сярод альшыны ля дарогі з Кляшчэляў у Бельск. Спярша я думаў, што гэта авечкі з цэлай вёскі і па старыннаму звычаю пасуцца яны тут чарадой. Аднак блізка вёсак не было. Маліннікі, праз якія праходзіць шаша, знаходзіліся далекавата. Пашкоўшчына аставалася з боку, а Грэдалі расцягнуліся на супрацьлеглым баку шасейнай дарогі.

* ⁂ *

І вось нядаўна за гэтым альшынавым пералескам убачыў я сялян, занятых уборкай сена. Мы пазнаёміліся, і тады выяснілася, што ўласнікам цэлай авечай чарады, а таксама і гэтай альшыны ды прылеглых да яе сенажацей і поля з'яўляецца **Мікалай Лукашук** са сваёй жонкай **Галенай.** Жывуць яны на хутары, далекавата ад іншых сяліб, сярод дрэў і палёў у поўнай цішыні, якую парушае толькі сумнае авечае бляянне. Адміністрацыйна калёнія Мікалая Лукашука прыналежыць да вёскі **Пашкоўшчына** ў **Арлянскай** гміне, у якой проста ганарацца гэтым селянінам.

* ⁂ *

Сам Мікалай Лукашук аказаўся не вельмі гаваркім чалавекам.

— Аўчарствам займаюся я ад 1950 года. Маю цяпер 170 авечак.

Многа. Гэта адна з буйнейшых у ваяводстве прыватная авечая ферма. Яе ўтрыманню Мікалай Лукашук падпарадкаваў усе свае намаганні. У яго 16-гектаровая гаспадарка. Пад збожжа і бульбу пакінуў ён усяго ледзь паўтара гектара, а рэшту абсеяў травой або замяніў на пасбішча. Значыць, аднабаковая, завужаная спецыялізацыя. Напрамак у сельскай гаспадарцы, якому цяпер адводзіцца першынство.

— Больш з гэтым турбот, чымсьці карысці, — неяк усхвалявана сцвярджае пашкоўскі аўчар. — Хто б да мяне не прыехаў, перш за ўсё ў маіх авечках бачыць модныя кажухі, за якія ў „комісе“ трэба плаціць цяпер 15-20 тысяч. А хай бы разам са мною пажыў і папрацаваў пару месяцаў так, як я!

— Асабліва тады, — адгукваецца яго жонка, — калі ў авечак пачынаюцца роды, калі ўсіх ягнят трэба з бутэлькі карміць. Няма тады ні свята, ні нядзелі, удзень і ноччу ўсё на нагах.

* ⁂ *

У мінулым годзе Мікалай Лукашук стаў лаўрэатам конкурсу **„Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“**. Заваяваў другое месца і прэмію ваяводы — 15 тысяч злотых.

**(Працяг на стар. 4)**

ВЯЛІКІ КОНКУРС З УЗНАГАРОДАМІ

## Сярод сяброў

У гэтым годзе ўвесь прагрэсіўны свет урачыста адзначае 60-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. З гэтай нагоды абвяшчаем сёння супольна з братнімі рэдакцыямі „Гродзенскай праўды“ і „Газеты Вспулчэснай“ **вялікі конкурс з узнагародамі.**

Прыняць удзел у конкурсе запрашаем усіх нашых чытачоў.

А вось **11 пытанняў,** на якія трэба падрабязна адказаць.

1. Якія мясцовасці звязаны з прабываннем У. І. Леніна ў Польшчы?

2. Калі Савет Народных Камісараў Савецкай Расіі абвясціў дэкрэт аб праве польскага народу на незалежнасць і самавызначэнне?

3. Назавіце палякаў — актыўных удзельнікаў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі (не менш пяці прозвішчаў).

4. Дайце некалькі прыкладаў супрацоўніцтва КПСС і ПАРП (сустрэчы на вышэйшым узроўні, узаемныя візіты партыйных дзеячоў па абмену вопытам і інш.).

5. Калі быў падпісаны Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе паміж СССР і ПНР і калі быў прадоўжаны на далейшы перыяд?

6. Назавіце важнейшыя міжнародныя мірныя ініцыятывы з удзелам СССР і Польшчы.

7. У будове якіх аб'ектаў, пабудаваных і будуючыхся на тэрыторыі Польшчы, бярэ ўдзел СССР? (Назавіце не менш трох аб'ектаў).

8. У будове якіх аб'ектаў, пабудаваных і будуючыхся на тэрыторыі СССР бярэ ўдзел Польшча? (Назавіце прынамсі тры аб'екты).

9. Якія вышэйшыя навучальныя ўстановы Гродна і Беластока супрацоўнічаюць між сабой?

10. Якія прадпрыемствы і ўстановы Беластока і Гродна супрацоўнічаюць і падтрымліваюць сяброўскія сувязі?

11. Калі адбыўся першы Фестываль савецкай песні ў Зялёнай Гуры, каторы па ліку апошні фестываль і хто з'яўляецца яго арганізатарам?

**Адказы на конкурсныя пытанні можна дасылаць да 15 кастрычніка г.г.** Хаця часу яшчэ шмат, раім як найхутчэй узяць удзел у конкурсе

Чытачоў, адказы якіх журы прызнае найлепшымі, чакаюць **спецыяльныя ўзнагароды.** Дадатковай узнагародай для пераможцаў з нашага рэгіёна будзе **двухднёвы побыт у г. Гродна,** куды будуць яны запрошаны на ўрачыстае ўручэнне ўзнагарод у лістападзе г.г. Пераможцы з Гродзеншчыны будуць у сваю чаргу запрошаны ў Беласток.

Апрача спецыяльных узнагарод, тых чытачоў, якія возьмуць удзел у конкурсе і прышлюць правільныя адказы, чакае **яшчэ 15 іншых каштоўных узнагарод.**

Запрашаем усіх нашых чытачоў прыняць удзел у конкурсе. Адказы неабходна прысылаць да 15 кастрычніка г.г. на адрас:

Redakcja „Niwy”, ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok. **„Сярод сяброў“.**

## ГАРАДОК У ДЗЕНЬ АДЗНАЧЭННЯ

Быў гэта дзень 17 ліпеня 1977 года. Гарадоцкая гміна рыхтавалася да яго ўжо даўно — ад мая гэтага года, калі людзі даведаліся, што Рада Дзяржавы прысвоіла іх гміне **Ордэн Крыжа Грунвальда** III ступені. Рабочыя трыкатажнага прадпрыемства „Каро“ сталі на працоўную вахту, каб у ліпені даць краіне дадатковую прадукцыю вартасці ў паўмільёна злотых, у Калодне, Меляшках, Падазеранах і ў іншых вёсках сяляне ўзяліся за грамадскі чын, гарадоцкія пажарнікі пры падтрымцы ўсіх іншых жыхароў пасёлка паклалі фундамент пад вялікую супрацьпажарную рамізу.

І сам дзень 17 ліпеня, гэтую гістарычную для Гарадка нядзелю, прывітаў ён у святочным настроі. Аднаўлены, ачышчаны, пamaляваны, упрыгожаны бела-чырвонымі і чырвонымі сцягамі.

А чацвертай гадзіне пасля поўдня на ўрачыстае пасяджэнне сабраліся радныя гміннай рады нарадовай і члены гміннага камітэта Фронту адзінства народу.

Людзі аднак намнога раней (здымак 1) ужо таўпіліся перад адрамантаваным домам культуры імя Кастуся Каліноўскага. У святочнай вопратцы, пры медалях і ордэнах. Чакалі прыезду прадстаўнікоў ваяводскіх улад (здымак 2). А калі яны прыехалі, гарадчане вельмі сардэчна, цёпла і з энтузіязмам прывіталі першага сакратара Ваяводскага камітэта партыі і старшыню Ваяводскай рады нарадовай тав. **Уладзіслава Юшкевіча,** а таксама беластоцкага ваяводу **др Зыгмунта Спрыху** і ўсіх іншых дастойных гасцей, якія прыбылі на гэтую ўрачыстую сесію **з нагоды ўручэння Гарадоцкай гміне высокай дзяржаўнай узнагароды.**

Найперш аднак з рук сакратара Уладзіслава Юшкевіча і заслужаных дзеячоў камуністычнага руху Гарадоцкай

**(Працяг на стар. 2)**



 

# ГАРАДОК У ДЗЕНЬ АДЗНАЧЭННЯ

(Працяг са стар. 1)

гміны 14 членаў Саюза сацыялістычнай польскай моладзі атрымалі **кандыдацкія білеты Польскай аб'яднанай рабочай партыі.** Маладому працаўніку гарадоцкага ГС-у **Юрку Кандрусіку** кандыдацкі білет асабіста ўручыў **яго бацька Павел Кандрусік,** які на працягу звыш 20-ці гадоў кіраваў дзейнасцю гміннага камітэта партыі ў Гарадку. Эстафету актыўнага жыцця з рук бацькоў пераймалі іх дзеці, каб традыцыя грамадскай дзейнасці, якой праславіўся Гарадок і ўсё яго наваколле, знайшла ў асобах гэтых дзяўчат і юнакоў сваіх ахвярных прадаўжальнікаў.

Затым дастойныя госці і прадстаўнікі грамадскасці Гарадоцкай гміны ўсклалі вянкі (здымак 3) ля помніка ахвярам фашызму. У пастанове Рады Дзяржавы аб узнагароджанні Гарадоцкай гміны Ордэнам Крыжа Грунвальда спецыяльна адзначаюцца заслугі тутэйшага насельніцтва ў барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі.

І тады распачалася ўрачыстая сесія. Аб гаспадарчых і грамадскіх пераўтварэннях у Гарадку і Гарадоцкай гміне расказаў сакратар гміннага камітэта партыі тав. **Яўгеній Раманчук** (здымак 4).

Ордэн Крыжа Грунвальда, як каштоўную рэліквію, старшыня гміннага камітэта Фронту адзінства народу **Яўгеній Паплаўскі** (на здымку — злева) і сакратар гміннага камітэта ПАРП — **Яўгеній Раманчук** (здымак 5) ўсклалі ў спецыяльна падрыхтаваную вітрыну на цэнтральным месцы ў гарадоцкай Ізбе рэвалюцыйнай спадчыны.

Урачыстасці ў Гарадку закончыліся мастацкай часткай, у час якой, зразумела, выступіў таксама заслужаны гарадоцкі беларускі калектыў (здымак 6).

Ён так ужо ўрос у мясцовую традыцыю, што без яго ўдзелу не абыдзецца ў Гарадку ніводнае мерапрыемства. Нават паважаная Ніна Мушынская, якая ў апошні час моцна хварэла, разам з усімі членамі калектыву задушэўна спявала і бадзёра чытала вершы.

Гэтая нядзеля, дзень 17 ліпеня, надоўга застанецца ў памяці жыхароў Гарадка.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара


2


3

4


5


6






**Sobota — 6.VIII.** 9.00 Bajkowy poranek. 10.00 Prawda czasu, prawda ekranu: Opowieść o płomiennych. 11.40 Polska w kosmosie. 12.10 Radzimy rolnikom. 12.20 Studio 2.

**Niedziela — 7.VIII.** 8.55 Program dnia. 9.00 Kino TDC. Spacer pod psem — film pol. 9.30 Antena. 10.00 Grecja — ang. film dok. 10.55 Klub sześciu kontynentów. W 80 dni dookoła świata. 11.40 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 XI Ogólnopolski Festiwal Folkloru i Sztuki Ludowej w Płocku — koncert galowy. 13.20 Bajki bajeczki. N. Gałczyńska „Książeczka zza morza". 14.00 Filmy Iwana Pyriewa. Świniarka i pastuch — komedia rad. 15.25 Los. Duż. Lotka. 15.40 Wielka gra — teleturniej. 16.35 Kot Feliks — film anim. 16.45 Wakacje — odc. II serialu dla młodzieży. 17.40 Co nam zostało z tych lat. Jarema Stępowski. 18.00 Studio sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Garsoniera — komedia ameryk. 22.35 Studio sport.

**Poniedziałek — 8.VIII.** 14.20 Program dnia. 14.25 Wakac. Kino Młodych. Bokser. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Historia w krajobraz wpisana. 17.00 Teleferie. 18.05 Przygody Pana Michała — odc. V i VI serialu TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Teatr TV. R. Frelek, W. T. Kowalski „Przed burzą" cz. VI „Ostatni miesiąc pokoju". 21.40 Camerata. 22.30 Gdy zaczynaliśmy: Płocka Petrochemia. 22.50 Dziennik.

**Wtorek — 9.VIII.** 9.00 Bajkowy poranek. 13.45 Program dnia. 13.50 Wakac. Kino Młodych. Jarzębina czerwona. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio TV Młodych. 17.20 Kółko i krzyżyk — teleturniej. 17.35 Magazyn motoryz. 17.55 Interstudio. 18.25 Między nami jaskiniowcami — film anim. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Życie małżeńskie — cz. I „On" — franc. dramat obyczajowy. 22.30 Świadkowie. 22.50 Dziennik.

**Środa — 10.VIII.** 15.30 Program dnia. 15.35 Wakac. Kino Młodych. Podziemny front. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Urlop w zamku — publicystyka kult. 16.55 Los. Mał. Lotka. 17.10 Kino TDC. Tajemnicza wyspa. 18.15 Gdy zaczynaliśmy: Mosty. 18.35 Z przyrodą na Ty — program oświat. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Życie małżeńskie — cz. II „Ona" — franc. dramat psych. 22.25 Spotkania z medycyną. 22.55 Dziennik.

**Czwartek — 11.VIII.** 9.00 Bajkowy poranek. 14.00 Program dnia. 14.05 Wakac. Kino Młodych. Nikodem Dyzma. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Taaka ryba! — magazyn wędkarski. 17.00 Teleferie. 18.00 Patrol. 18.20 Opowieści reporterów. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Teatr Sensacji. Hilda Lawrance „Kompozycja na cztery ręce". 22.10 Pegaz. 22.55 Dziennik.

**Piątek — 12.VIII.** 14.55 Program dnia. 15.00 Wakac. Kino Młodych. Błękitny krzyż. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio sport. 17.00 Lato z książką. 17.30 Sensacje przeszłości. Nieznany obraz Cranacha. 17.40 Rzeka posępna — cz. II serialu radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Film Telewizyjny na świecie. Opowieść o żołnierzu Juanie — hiszp.. 21.25 Teatr Małych Form. J. Głowacki: „Wizyta". 22.05 Poradnik zmotoryz. turysty. 22.15 Jan Kiepura — godzina wspomnień. 23.00 Dziennik.




**Piątek 5.VIII** — 9.00 Film ser. 14.55 Film fab. 16.00 Moskwa i moskwiczanie. 17.15 Film anim. 19.00 Nasza biografia. 21.00 Koncert. 22.00 Sport.

**Sobota 6.VIII** — 8.30 Dla dzieci. 11.05 Koncert. 11.30 Film anim. 13.55 Film fab. 17.15 Filmy anim. 18.55 Film ser. 22.00 Koncert.

**Niedziela 7.VIII** — 10.00 Film ser. 12.30 Film fab. 19.00 Spektakl TV. 20.30 Koncert. 21.30 Sport.




**Białowieża** Klatka — fr. 9—10. Skazańcy — buł. 11—12. Dziewczyna szuka szczęścia — ang. 13—14.

**Bielsk Podlaski** Człowiek z marmuru — pol. 9—12. Strach nad miastem — fr. 13—14.

**Czeremcha** Sacco i Vanzetti — wł. 9—10. Czas przeszły — pol. 13—14.

**Czyże** Konik Garbusek — radz. Maria — szwedz. 10—14.

**Dubicze Cerkiewne** — Ojciec Chrzestny — USA. Mój brat ma fajnego brata — czes. 10—14.

**Hajnówka** Koncert dla Qutsidera — NRD 10—11. Udręka — hiszp. 12—13. Charley Varrick — USA 14.

**Kleszczele** Zapłacisz mi za to — pol. 9—10. Przerwana pieśń — bułg. 11—12. Miasto w czerni — węg. 13—14.

**Michałowo** Troje ze skrzydlatego pułku — radz. 9—10. W upalną noc — USA 11—12. Policja przygląda się — wł. 13—14.

**Mielnik** Ślady — wł. 10. Smuga cienia — pol. 13—14.

**Milejczyce** Grubasek — czes. 9—10. Zanim nadejdzie dzień — pol. 11—14.

**Narew** Dom — jug. Piosenka za koronę — czes. 10—14.

**Narewka** Obecność — bułg. Zindy chłopiec z bagien — mek. 10—14.

**Nurzec** Dzielny szeryf Lucky Luke — fr.-belg. 9—10. Cudze listy — radz. 11—12. Czerwone ciernie — pol. 13—14.

**Orla** Ocalić miasto — pol. Obrazki z życia — pol. 10—14.

**Rajsk** Mniejszy szuka dużego — pol. Nieposkromieni Hajducy — węg. 10—14.



B.Z.Graf. Zam. 1849 B-4

 

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 223


* ★ *

*Не можаш ты быць*
*закаханай авечкай*
*і бегчы за мною,*
*прылíпшы да следу;*
*ты ў цемры будзь*
*пуцяводнаю свечкай*
*і зморк майго сэрца*
*наведай.*
*І не зашкодзіш*
*майму ты прэсціжу,*
*калі апярэдзіш*
*і крыкнеш:*
*— Алесю,*
*сюдою да шчасця*
*найбліжэй*
*у нашым лесе!*

* ★ *

*Мне снілася, што я прачнуўся*

*і не знайшла мая рука*
*яе ў пасцелі.*
*І мая радасць пачарнела,*
*і клікаў я дзяўчыну,*
*плакаў*
*ды голас мой пагас у цішы.*
*Пачуўся непатрэбным,*
*лішнім*
*і ўрэшце крыкнуў*
*так рашуча,*
*што прабудзіўся разам з ёю.*
*Яна спытала:*
*— Што мучыць,*
*чаго крычыш, як неразумны?*
*Спі, так далёка яшчэ ранак...*
*А я не спаў, а я ўсё думаў,*
*ці можа быць разумным*
*закаханы.*

* ★ *

*Скінь блузку і спадніцу*
*і рэшту скінь таксама*
*не не скідай*
*я расправу цябе сягоння*
*ты можаш толькі ўзірацца*
*сачыць украдкам мае рукі*
*і ўстыдацца.*

* ★ *

*Іду ў каханне без агляду*
*перасцярог я не баюся*
*ці ж варта сэрца паіць страхам*
*пры уваходзе у святыню*
*а нават каб было турмою*
*у ёй ахвотна зачынюся.*

* ★ *

*Ты як зямля*
*з табой шчасце і клопаты*
*любіш уласнасць*
*без яе не квітнееш*
*і таму ва ўладанне*
*бяру тваё цела*
*і не баюся мянушкі „уласнік"*
*цяжарнасць і плод усё апраўдаюць.*

* ★ *

*Скінь дзяўчына да д'ябла*
*вопратку божую*
*пакажы ногі прыгожыя*
*грудзі прыгожыя*
*вер што мары твае*
*былі праўдай не грэхам*
*весяліся дзяўчына*
*дзявочай уцехай*
*богу божае*
*людзям людское*
*будзь маладою*
*грэх маладосці*
*ёсць цнотай*
*пазнаеш залёты*
*пяшчоты ўзлёты*
*хлапца пакахаеш*
*каханнем прыгожым*
*паплывеш праз жыцця*
*паўнаводдзе*
*і згодна з законам божым*
*дзіця народзіш.*

**Алесь Барскі**

## МІЛЫ ДРУЖА

*Мілы дружа, слухаць горка,*
*Ты набыў дурных манер:*
*Брыдкаю завеш гаворкай*
*Мову родную цяпер.*

*Нат тутэйшым, як калісьці,*
*Не завеш, сябе, дружок.*
*Адарваным з дрэва лісцем*
*Мкнеш дзе дзьмухне вецярок.*

*Што, забыў, адкуль паходзіш,*
*Што ты нарадзіўся тут?*
*Ты ж плюеш на асяроддзе,*
*На бацькоўскі родны кут.*

*Ты на гарадской пасадзе*
*Новых падшукаў сяброў.*
*Нават прозвішчу ўжо здрадзіў*
*Сваіх прадзедаў, бацькоў.*

*І, магчыма, па парадку*
*Зробіш ты апошні крок:*
*Здрадзіш бацьку, здрадзіш маці,*
*Астанешся, як калок.*

**Віктар Швед**

* ★ *

*Вылавіла я цябе са свету*
*сеткай свайго лёсу*
*Буду карміцца табой*
*Пагльнаць цябе*
*— ды ты жыць не перастанеш*
*Воды крынічныя піць будзеш*
*з бяздоннага акіяна маіх пачуццяў.*

**Варвара Кваціш**



## ЗАКЛІК ЖЫЦЦЯ

Калі кліча жыццё,
Адказаць не магу.
Чую сэрца біццё,
Не чакаю, бягу.

Каб паспець, каб знайсці
Тыя сеці, віры,
Што сплятаюць душу,
Што жывуць на твары.

Прыцягае мяне
Яго кожная ніць.
Як жывое кране,
То балюча шчыміць.

Я хачу адшукаць
Яго радасць, цяпло,
Каб усім паказаць
Таго шчасця русло.

Пазнаць сілу, цяжар,
Сэнс усіх перамен,
Паглядзець проста ў твар —
Не сагнуці кален.

**Леапольд Танкевіч**

* ★ *

А недзе там цяпер ячмені
гараць пад небам перагрэтым,
варочаецца перапечка
і мёд зярна льецца у жменях;
ў кілім сакольскі прыадзета
Зямля — бы чорны хлеб духмяны,
і, быццам ёй б'ючы паклоны,
за плугам схілены ступаю;
ад вусеніц, што адкрываю,
нахальных я ганю варон.

**К. Бандарук**



* ★ *

*хацела б*
*хоць бы*
*прагльнуць*
*трошкі сэрца*
*што*
*ўсыхае за*
*ногцямі*

*хацела б*
*пазнаць*
*тагасветны*
*сэнс*
*зваротаў ўсмешкі*

*восень*
*— плады*
*кветкі*
*— вясны*
*зіма*
*— белі*
*сонца*
*— лета*

*хацела б*
*так*
*хацела б*
*і*
*магутна шалёна*
*... давяраць*

**„Ваву"**

## ПЫТАННЕ ПРА ПАЭЗІЮ

*напрыклад рамеснікі*
*— паэты*
*гэта ў іх чаравіках*
*адмяраю пульс майго дня*

*а я*
*— ні паэт ні рамеснік*
*ганяюся толькі*
*за напісанай сарнай*
*наіўна спадзяваючыся*
*што ўцячэ*
*у напісаны лес*

**Зося Сачко**



* ★ *

ценем
плыву у марах
да тваіх дзвярэй...

але
промень твайго святла
не прасочыцца тут

іду
сваім
крокам
да цябе
і
да зямлі
згінь думка (без загалоўка)

. . . . . . . . . . .

штодзень
адыходзяць
людзі

**Надзея Артымовіч**

## ДЗЕ ЯНЫ?

*Куды прапаў бадзёры Крупа,*
*Што моцна так нагамі тупаў?*
*Ці мо так дзесьці загуляўся,*
*Што ад той працы падарваўся?*
*Дзе Блізнючок — „сухі, як нітка"?*
*Прыкрыўся шапкаю-нявідкай?*
*Ці патаўсцеў (так мне здаецца),*
*Што можа з месца не кранецца?*
*Ці Кардзюкевіч-баламута?*
*Няўжо яго хто змог і спутаў?*
*Казалі, Вера ачманіла,*
*Яму пярсцёнак падарыла?..*
*Што з ім і як ён пражывае?*
*Чаму гармонік не іграе?*
*І пра яго цяпер заціша...*
*А мо дзяцей сваіх калыша?*
*Няма ды ўсё — пішы прапала,*
*Як жыць эстрада перастала.*
*Як толькі з Верай ажаніўся,*
*Дык як скрозь зямлю праваліўся.*
*Шкада дзяўчатак, што спявалі,*
*Якія з Крупам танцавалі,*
*Што губы крэмам малявалі...*
*Куды ж яны,*
*куды прапалі?..*

**Ул. Шклярук**

* ★ *

і на хаду
мы скачам ў караблі
і на хаду
мы пакідаем мора
аддаўшы доўг
узяты у зямлі
той жа зямлі
магутнай непакорнай
і п'едэсталы
сыплюцца пустымі
або вітаюць
ўздымам галавы
і тыя што
па нас будуць жывымі
скажуць хто жыў
хто плаваў па зямлі

**Міхась Шаховіч**

 

М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**вітранка** — дошка, якая асланяе краі чарапіц, каб не пазрывала ветрам. Поліезь вітранку прыбі, а то совсіем обырвалася.

**ентка** — кароткая жэрдзіна, якая звязвае дзве кроквы. Але і в вас сіена, аш пут самы енткі.

**пэрэзва** — пасаг маладой, які прывозяць яе госці на другі дзень вяселля ў хату маладога. Пэрэгороджуйтэ хучыэй гуліцю, бо вжэ пэрэзва до сёла дойіжджае.

**пэрэпіване** — складанне вясельных падарункаў. Цікаво, што то маті хрышчона пэрэп'е?

**скіепка** — тоненькая адшчапіна ад дрэва. Возьмі скіепку лучыны, то хучый розгорыцця.

**шат** — іней. Дэш ты босы біжыш? Глянь, які шат на дворыэ!

**(Кожына, гміна Бельск)**

## ФАЛЬКЛОР

**СЯМЕЙНАЯ**

Moderato







*Ой, пайду я лугам, лугам,*
*ну та, ну та, ну та я,*
*дзе мой мілы гарэ плугам,*
*ну та, ну та, ну та я.*
*Занясу я яму есці,*
*ну та, ну та, ну та я,*
*чы ні скажа ён мне сесці,*
*ну та, ну та, ну та я.*
*Ён наеўса, пасіліўса,*
*ну та, ну та, ну та я,*

*да й на ролю пакаціўса,*
*ну та, ну та, ну та я.*
*— Чаго лежыш дай думаеш?*
*Ну та, ну та, ну та я,*
*Чом ты ролю ні канчаеш?*
*Ну та, ну та, ну та я.*
*— А я лежу да й думаю,*
*ну та, ну та, ну та я,*
*што пагану жонку маю,*
*ну та, ну та, нута я!*

Ад Надзеі Баўкун, 1928 года нараджэння, вёска Грабяні гм. Дуброва Беластоцкая, запісаў у лютым 1977 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Беларусіяна

### „МАЛАЗНАНЫ СУСЕД"

Пад такім загалоўкам быў змешчаны ў 28 (1062) нумары „Палітыкі" за 9 ліпеня бягучага года артыкул Ежы Тамашэўскага, у якім паказаны ўзаемаўплыў польскага і беларускага народаў на палітычнае і культурнае развіццё сваёй краіны. „Ужо больш пяці стагоддзяў, — піша Е. Тамашэўскі, — ідуць побач гістарычныя лёсы Беларусі і Польшчы. Сярод заслужаных для развіцця беларускай навукі, культуры і асветы, сярод выдатных палітычных дзеячоў на працягу гэтых стагоддзяў знаходзім не адно прозвішча, добра вядомае з гісторыі Польшчы". Часта Беларусь, знаходзячыся пад прыгнётам другіх дзяржаў, была пазбаўлена сваіх правоў. На працягу некалькіх стагоддзяў большая частка Беларусі была ў складзе шляхецкай Рэчыпаспалітай, у XIX стагоддзі разам з часткаю польскіх земляў знаходзілася пад прыгнётам Рускай імперыі, а ад 1921 года была падзелена дзяржаўнай мяжой на дзве часткі, з якіх заходняя апынулася ў Рэчыпаспалітай. Ідучы па ступеньках гістарычных падзей, паказвае ён плады многавекавога суседства. Парушае ён справы беларускага школьніцтва, палітычнага жыцця беларусаў, літаратурных польска-беларускіх ўзаемасувязей. Новая, з 1944 года, дзяржаўная мяжа спалучыла Усходнюю і Заходнюю Беларусь у адну цэласць — Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Распачалося новае жыццё. „У якой ступені сплачвае навука доўг перад мінулым пакаленнем?" — ставіць пытанне Е. Тамашэўскі. У адказ прыводзіць пералік пладоў навуковых даследванняў над мінулым Беларусі. Выплываюць шматлікія прозвішчы, а сярод іх немалая колькасць палякаў. Шматлікія публікацыі, манаграфіі, кніжкі ствараюць цікавую і багатую бібліятэку. Але многае яшчэ не зроблена. Шмат яшчэ белых плям, на якія і звяртае Е. Тамашэўскі ўвагу даследчыкаў. Прыкладна, нічога невядома аб другіх, апрача рэвалюцыйнай, плынях палітычнага жыцця беларусаў. Указваючы на гэтыя белыя плямы, аўтар заахвочвае да накіравання даследчыкамі сваіх зацікаўленняў менавіта ў гэтым напрамку.

**М. Шаховіч**

# БЕЛАВЕЖА Ў СЕЗОНЕ



### У ТУРЫСЦКАЙ ЖАМЧУЖЫНЕ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

У Белавежы процьма турыстаў і экскурсантаў. Яны не толькі з цэлай Польшчы, але і з цэлага свету. Праўду кажучы, гэты год, мяркуючы па статыстычных дадзеных, не павінен быць найбагацейшы прыездамі, але не павінен і ўступіць мінуламу году-рэкардзісту. Ужо да 15 чэрвеня наведала Белавежу каля 44 тыс. чалавек, у тым ліку 1,5 тыс. замежных турыстаў з 22 дзяржаў. З заграніцы едуць з СССР (60%), з Францыі, ФРГ, Швецыі, Чэхаславакіі і ЗША. У гэтым годзе мала турыстаў з ГДР — Прыродазнаўчы музей БНП аднатаваў да 15 чэрвеня толькі 41 асобу.

Змяніліся ўлады турысцкага цэнтра „Іва". Ад студзеня месца СБТ „Турысты" заняў аддзел Ваяводскага прадпрыемства турысцкіх паслуг. У яго распараджэнне перайшлі цяпер усе прыватныя кватэры. На жаль, новыя ўлады сваю дзейнасць пачалі ад ліквідацыі шэрагу „прыватак" з увагі на неадпаведныя ў іх санітарныя ўмовы. Такім спосабам значна панізіўся лік начлежных месц. А шкада, бо гэтага ў Белавежы ніколі даволі не хапала! Санітарныя ўмовы ўмовамі, а начаваць пад якімсьці дрэвам не выпадае, а хутчэй за ўсё нельга, бо камары кусаюцца.

З харчаваннем таксама ў Белавежы не найлепш. Ёсць чатыры рэстараны, але ахвотных з'есці абед больш, чым здолеюць яны абслужыць. Асабліва цяжка дастаць абед індывідуальнаму турысту. Калі б ён не ўвайшоў у рэстаран, заўжды убачыць зарэзерваваныя столікі. А тыя, якія не рэзервуюцца, як правіла, займае моладзь, п'ючая піва (асабліва ў „Турыстычнай"). Дрэнна стаіць справа з забеспячэннем спажывецкіх крамаў. Не хапае тут асноўных прадуктаў.

Папправілася затое сітуацыя з экскурсаводамі. Белавежскі гурток мае іх ад чэрвеня звыш 100 чалавек.

І ў гэтым годзе няма акуратнага выдання аб Белавежскай пушчы. У продажы знаходзяцца толькі невялікая брашура А. У. Сакалоўскага „Белавежа" і пара брашурак з серыі „Усё аб Белавежы". Разышоўся амаль цалкам тыраж карты пушчы. Апошнія экземпляры прадае ўжо толькі адна кнігарня. Крыху лепш прадстаўляецца справа з паштоўкамі. Ёсць іх многа, і густ неперабарлівага пакупніка могуць яны заспакоіць поўнасцю.

А што прапануецца наведаць турыстам і экскурсантам? Як штогод! Прыродазнаўчы музей БНП, запаведнік прыроды, запаведнік зуброў і лясных конікаў тыпу тарпана. І ў асноўным гэта ўсё. Праўду кажучы, арганізуецца яшчэ ў Белавежы катанне падводамі, спалучаныя з кастрамі, але аб гэтым няма чаго шырэй гаварыць. Экскурсант пасля такога выезду на другі дзень думае толькі аб тым, каб пахмяліцца.

Надта зацягваецца ў Белавежы будаванне другога крытага мосціка, спалучаючага левы бераг ракі Нараўка з грэбляй у ваколіцы стаянкі аўтамабіляў. Шкада, бо турысты мелі б намнога карацейшую дарогу ў турысцкі цэнтр у палацовым парку. Просіцца таксама, каб хутчэй загаспадарылі яе, стаянка аўтамабіляў.

І гэта пакуль што ўсё. Аб праблемах, звязаных з сёлетнім турысцкім сезонам у Белавежы, будзем пісаць у наступных нумарах.

### КУРТ ВАЛЬДГАЙМ З ВІЗІТАМ

11 і 12 ліпеня ў Белавежы знаходзіўся Генеральны сакратар ААН др Курт Вальдгайм з жонкай Элізавет і дачкой Хрысцінай. Суправаджалі яго віцэ-міністр замежных спраў ПНР Яўгеній Кулага, беластоцкі ваявода др Зыгмунт Спрыха і шматлікая група працаўнікоў і супрацоўнікаў ААН.

Доктар К. Вальдгайм наведаў у Белавежы запаведнік прыроды і Прыродазнаўчы музей БНП. Шаноўны госць цікавіўся флорай і фаунай пушчы, а таксама навуковымі даследаваннямі, якія ў ёй вядуцца. Інфармацыі даваў навуковы працаўнік БНП др інж. Чэслаў Аколаў — дасканалы знаўца пушчы і яе вялікі любіцель. Падвечар таго ж самага дня К. Вальдгайм аглядаў яшчэ зуброў на свабодзе, а ва ўрочышчы Старая Белавежа слухаў ансамбль „Курпі Зялёныя".

На другі дзень зранку Генеральны сакратар ААН наведаў запаведнік зуброў і лясных конікаў тыпу тарпана. Інфармаваў тут госця кіраўнік цэнтра гадоўлі рэдкай звярыны — Уладзімір Пірожнікаў, а таксама дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку Стэфан Крукоўскі. Потым др К. Вальдгайм і суправаджаючыя яго госці накіраваліся ў Беласток.

К. Вальдгайм пакінуў вельмі прыемныя ўражанні. Доўга будзем памятаць яго сардэчнасць, праяўленую да нас і да спраў, якія нас акружаюць.



*Госці ў момант выхаду з Прыродазнаўчага музея БНП у Белавежы.*

### ПАПАЎНЕННЕ

Вельмі ўрачыста прыняў у свае рады свежае папаўненне гурток экскурсаводаў ПТТК у Белавежы. Усе паехалі на падводах ва ўрочышча Старая Белавежа, што над ракой Лутоўня. Тут 34 маладыя экскурсаводы (якія паспяхова закончылі курс, арганізаваны ў перыядзе кастрычнік 1976 — май 1977) далі экскурсаводчую прысягу. На месцы адбылося таксама ўручэнне экскурсаводчых білетаў, значкоў і нашывак. Віншаванні і пажаданні поспехаў у новай працы перадаў маладым экскурсаводам ад імя аддзела фізічнай культуры і турызму Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку, а таксама Ваяводскага праўлення ПТТК — др Міхал Гейдэль. Афіцыйную частку закончыў дакладам на тэму пасляваеннай гісторыі Белавежскага нацыянальнага парку старшыня навучальнай камісіі гуртка др інж. Чэслаў Аколаў.

З кастра шуганула полымя, заіграў гармонік, паплылі песні... На доўгім стале, пад спецыяльным дахам, паявілася ежа і напіткі.

**Пётр Байко**
Фота аўтара

### НЯВЫКАРЫСТАНЫЯ РЭЗЕРВЫ

У час II усеагульнага агляду гмін на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны было пацверджана 329 нявыкарыстаных пунктаў у гаспадарчых будынках. Толькі ў адным сельскагаспадарчым кааператыве ў Зубачах ёсць іх каля двухсот. Прычына гэтай некарыснай з'явы заключаецца ў недахопе гадаўлянага матэрыялу.

Найбольшая нястача адчуваецца ў свінагадоўлі. Як мне сказаў кіраўнік нашай гміннай сельскагаспадарчай службы, у апошні час сяляне патрабуюць усё больш свінаматак. Для прыкладу хачу сказаць, што ў мінулым годзе, калі сяляне купілі 26 свінаматак за цэлы год, дык ужо ў I паўгоддзі гэтага года — каля 40 штук. Аднак і гэтая колькасць не задаволіць жыхароў Чаромхаўскай гміны. Попыт на парасят усё павялічваецца.

Нягледзячы на некаторыя цяжкасці, гмінная ўправа ў Чаромсе накрэсліла план павышэння свінагадоўлі і жывёлагадоўлі, які дапускае, што да канца кастрычніка г.г. будуць выкарыстаны ўсе дагэтуль свабодныя пункты ў гаспадарчых будынках.

**Ул. Сідарук**



 

## ANNA JANTAR



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:**
Аля Анішчук з Клейнік, Вера і Марыя Манцюк з Мікуліч, Эва Красоўская, Ізабэла Вісьнеўская, Уршуля Дэмбоўская, Марыля Яблонская, Бажэна Здзіслаўская з Беластока.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астрон! Пішу да цябе першы раз. Я закончыла ў гэтым годзе восьмы клас. Аднойчы мне прысніўся мой настаўнік. які яшчэ кавалер. Мне снілася, што я з ім цалавалася і танцавала. Гэта ўжо мне раз снілася і цяпер другі раз прыснілася. Ён жыве ў суседняй вёсцы, і цяпер ён ужо не будзе нас вучыць. Я не ведаю, што мой сон абазначае, і таму моцна занепакоена.

Марыя

Сніцца мне, што дачка маёй сяброўкі ўзляцела высока, і, што дзіўна, не на самалёце, а вось так, сама. І мы глядзім уверх і здзіўляемся, што так доўга яна не вяртаецца на зямлю. Аж тут бачу: ляціць, прызямляецца і ўжо яна на зямлі. Але глядзім, а гэта нейкая кошка прызямлілася. Так і прачнулася.

Аня

**Марыя!** Здаецца, падабаецца табе нейкі хлапец. Не хачу цябе пужаць, але чакае цябе здрада ў каханні (бо ты цалавалася з настаўнікам) і ў сувязі з гэтым нейкія дарэмныя захады (бо ты танцавала). Магу цябе, аднак, пацешыць: жыццё яшчэ перад табой, шмат у цябе будзе яшчэ і радасці і горкіх хвілін, але без тых горкіх хвілін не адчула б ты смаку радасці.

Ой, **Аня,** сцеражыцеся дачкі вашай сяброўкі: дзеля дасягнення сваёй мэты ўмее яна быць хітрай і льсцівай, пры аказіі можа і каго блізкага прадаць... Узляцела ж высока (пошукі кахання, спаўнення надзей і поспехаў у справах), а на зямлю вярнулася кошкай.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мне ўжо 26 гадоў, а яшчэ я незамужняя. У семнаццаць год хадзіла з хлопцам, кахала яго моцна, была замаладая і толькі таму не пажаніліся, а праз год, калі б магла выйсці, усё развеялася, ажаніўся мой хлопец, але не са мной. Я вельмі перажывала гэта. Потым яшчэ з тым і іншым хадзіла, але даверу да іх ужо не мела, усе ашуканцамі мне здаваліся. Але нядаўна пазнаёмілася я з Ёзікам. Ён за мяне старэйшы, але спадабаўся мне з характару — спакойны, разважлівы, ветлівы. Прыемна з ім і пасядзець, і пайсці на вечарыну ці ў кіно. Ён ужо мне гаварыў, што хацеў бы са мной ажаніцца, але не ведаю, як паступіць, бо, праўду кажучы, не кахаю я яго, няма да яго такіх пачуццяў, як калісьці ў семнаццаць год, я яго проста люблю як добрага, блізкага сябра. Скажы, выходзіць за Ёзіка, ці не?

Лена з Бельшчыны

Лена! Палымянае, часта неразважлівае каханне ўласціва толькі маладзенькім. Закаханыя тады кіруюцца толькі пачуццямі, не звяртаючы ўвагі на нішто больш. Жэняцца. Прыходзяць сямейныя абавязкі, прамінае палымянае каханне. Пачынаюць крытычна глядзець адзін на другога, заўважаюць і адмоўныя бакі, расчароўваюцца, і тады нярэдка распадаюцца такія сем'і. Ты і сама перажыла гэткае каханне, якое нават года не вытрымала. Каханы твой ажаніўся з іншай. Цяпер ты кіруешся рассудкам. Ты бачыш добрага, талковага чалавека, пакуль што блізкага, сардэчнага сябра. Мо яшчэ крыху заўчасна выходзіць замуж, бо нядоўга з ім хадзіла, мо таму і не паспела яго пакахаць. Не заўсёды ж можна закахацца з першага позірку. Каханне можа прыйсці з часам, таму і варта яшчэ пачакаць.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: К. перадаў зямлю дзяржаве за пенсію і атрымлівае пенсію 1200 зл. у месяц. Ён вельмі хворы і таму пенсіі яму не хапае, каб пражыць. Ён з'яўляецца інвалідам II групы. Ці прыслугоўвае яму дадатак да пенсіі 500 зл.? Ці апошняе павышэнне пенсіі, аб якой пісалі газеты, адносіцца да сялян?

АДКАЗ: Паводле закону аб перадачы сельскіх гаспадарак дзяржаве за пенсію і грашовыя сплаты, дадатак 500 зл. да пенсіі прыслугоўвае селяніну, які атрымоўвае пенсію, або члену яго сям'і, які атрымоўвае сямейную пенсію, калі яны залічаны да I групы інвалідаў. Таму, калі стан здароўя пенсіянера ад часу прызнання яму II групы інваліднасці значна пагоршыўся, ён можа патрабаваць накіравання яго на лекарскую камісію і толькі пасля прызнання яму I групы, яму прыслугоўвала б права на дадатак.

Закон з 31 сакавіка 1977 г. аб далейшым павелічэнні пенсій і змене некаторых правіл аб пенсіях не прадбачыць павышэння пенсій, выплачваемых сялянам за перададзеную дзяржаве зямлю. Закон гэты адносіцца (калі гаварыць аб сялянах) толькі да членаў сельскагаспадарчых кааператываў і кааператываў сельскагаспадарчых гурткоў.



**Мак. Фота Я. Цялушэцкага.**

## Куток практычных ведаў




### ЦІ МАЮЦЬ РАЦЫЮ?..

Здавалася б, цяжка паверыць, а вось так гучыць дыягназ лекараў-дыэтэтыкаў: людзі занадта поўныя (а якія хочуць пахудзець) павінны замест трох разоў у дзень есці прынамсі разоў пяць. Зразумела, што ў суме страва павінна складацца з пэўнай колькасці калорый.

Як вынікае з даследаў, тая самая колькасць ежы значна хутчэй і дакладней спальваецца, калі яна падзелена на меншыя порцыі. Снеданне ж павінна складацца з 1/3 калорый, прызначаных на цэлы дзень.

Многія з жадаючых пахудзець лічаць, напрыклад, што бульба — гэта іх вораг, і стараюцца пазбягаць яе, замяняючы найчасцей рысам. Тым часам трэба ведаць, што 100 г варанай бульбы — гэта толькі 85 калорый, у той час, калі ў 100 г варанага рысу (каля 28 г сырога) знаходзіцца аж 100 калорый. „Адхуджваючае“ дзеянне рысу заключаецца толькі ў яго адвадняючых уласцівасцях. Але дастаткова выпіць шклянку чаю ці іншага напітку, каб недахоп вады хутка выраўнаўся.

Ці чалавек, шмат п'ючы, паўнее? Гэта залежыць ад таго, што ён п'е. Мінеральная вада, кава без цукру, несалодкі чай, а таксама ўсе несаладжаныя зялёныя напары — гэта 0 калорый. Аднак, паўлітра ліманада — гэта ўжо 175 калорый, бутэлька „Кока-колы“ — 110, паўлітра соку з чорных парэчак — каля 260 калорый, яблычнага соку — 240 калорый, паўлітра тлустага малака — 280 калорый, паўлітра піва — 230 калорый.

Многія лічаць, што асноўная прычына паўнаты заключаецца ў спажыванні супу. Таму многія жанчыны ахвотна адмаўляюцца ад супу, не баючыся ў той час з'есці піражнае з крэмам і выпіць салодкую каву. А як жа гэта выглядае ў каларычным супастаўленні? Два піражных плюс кава з цукрам раўнаюцца 420 калорыям, талерка крупніку з салам — усяго 220 калорый.

**Эскулап**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЯК СЕЙСМОГРАФ

„Калі вы хочаце загадзя даведацца аб набліжэнні землетрасення, займейце яка, — раіць прафесар Такійскага тэхналагічнага інстытута Ц. Рыкітаке. — За некалькі гадзін да яго жывёліна абавязкова аб'явіць галадоўку“.

Вучоны заканчвае кнігу аб паводзінах жывёлы перад землетрасеннем. Матэрыялам для яе паслужылі 157 сведчанняў відавочцаў, сабраныя ў Японіі, Кітаі і еўрапейскіх краінах.

„Кошкі, мышы, тыгры, многія птушкі і рыбы, безумоўна, адчуваюць набліжэнне землетрасення, — піша Рыкітаке. — У 1976 годзе, напрыклад, з населеных пунктаў на поўначы Італіі за некалькі гадзін да катастрофы зніклі амаль усе кошкі. Прыкметнае хваляванне праяўлялі і хатнія птушкі...“




Раптам немцы перадалі: „Звесткі паступаюць са спазненнем“.

Гэта азначала: у фашысцкіх разведчыкаў узніклі сумненні. Трэба даказаць, што звесткі правільныя. Але як гэта зрабіць?

Капітан Косцін, знаёмячыся з мясцовасцю, звярнуў увагу на закінутую чыгуначную ветку, па якой да вайны вазілі прадукцыю з цагельнага завода. Гэта навяло на цікавую думку.

Ноччу ў тупік загналі старыя вагоны-цяплушкі. Паблізу, у хмызняку, але так, каб яны былі бачны, паставілі пустыя скрыні, частку з якіх накрылі брызентам і крыху закідалі сенам. Тут жа размясцілася рота байцоў з суседняй воінскай часці. У лесе кастры, дым слаўся па лагчыне...

Максімаў перадаў па рацыі: „У тупіку разгружаецца воінскі эшалон, салдаты размясціліся ў лесе...“

На досвітку над чыгункай з'явілася „рама“, фашысцкі самалёт-разведчык. Калі ён падляцеў да тупіка, салдаты па камандзе кінуліся ўрассыпную, далей ад вагонаў, у сховішчы. У яснае надвор'е ўсё гэта, вядома, добра было бачна з вышыні. Гадзіны праз паўтары звяно бамбардзіроўшчыкаў на вялікай вышыні прайшло над саставам. Косцін, які назіраў за імі, быў усхваляваны: няўжо немцы зразумелі, што састаў і склад фальшывыя?

Раптам бамбардзіроўшчыкі пачалі разварочвацца і з ходу пікіраваць на цяплушкі. Слупы зямлі і гару ўзняліся вышэй за лес. Гул выбухаў разнёсся па акрузе. Адбамбіўшыся, самалёты прайшлі нізка над лесам, паліваючы яго з кулямётаў.

У той жа дзень Максімаў прыняў шыфроўку: „Дзякуем за інфармацыю. Вы абодва ўзнагароджаны медалем „За храбрасць“.

Гэта быў першы невялікі поспех контрразведчыкаў. Цяпер можна актывізаваць гульню.

Перадаючы чарговую „інфармацыю“ немцам, Максімаў паскардзіўся на цяжкасці: „Грошы на зыходзе, няма цёплага адзення, батарэі садзяцца“. Гэта адпавядала сапраўднасці. Нямецкі разведцэнтр паведаміў, што на наступным тыдні прыбудзе сувязны, які даставіць усё неабходнае. Сустрэць сувязнога загадана Жабічу.

Гульня абяцала даць адчувальны вынік. Контрразведчыкі падрыхтаваліся было да сустрэчы прадстаўніка разведкі, але неабходнасць у гэтым нечакана адпала.

У асобы аддзел дывізіі, якая займала абарону пад Тулай, з'явіўся з пакаяннем агент Мяшчэрскі. Ён меў заданне прабрацца праз лінію фронту, сустрэцца з Жабічам, перадаць яму грошы, пісьмо і праверыць яго работу. Пра Максімава Мяшчэрскаму немцы не сказалі ні слова. Са зместу пісьма было бачна, што Жабічам і Максімавым гаспадары задаволены, але патрабуюць смялей завязваць знаёмства з чыгуначнікамі і праз іх здабываць важныя сакрэтныя звесткі.

Мяшчэрскі паказаў сябе чалавекам шчырым. Звесткі, якія ён прадставіў контрразведцы і ваеннаму камандаванню, пацвердзіліся. Яго вырашылі ўключыць у гульню. Жабіч гэтага не ведаў і з нецярплівасцю чакаў сувязнога.

І дачакаўся! Як быццам нічога не было, з усімі перасцярогамі Мяшчэрскі сустрэўся з Жабічам. Размаўлялі яны сам-насам. Пераканаўшыся, што Мяшчэрскі сапраўды прыбыў з-за лініі фронту, Жабіч сказаў, што Максімаў ненадзейны, што ён, Жабіч, хацеў бы зараз жа ўцячы.

Мяшчэрскі разыграў кароткую сцэну спалоху, сказаў, што такога загаду няма, сунуў у рукі Жабічу грошы і пісьмо, і, не развітаўшыся, пайшоў. Стала зразумела: Жабіч ненадзейны, ён, магчыма, ужо даўно паспрабаваў бы ўцячы, але баяўся, што немцы перастануць яму давяраць. А цяпер ён збіраўся выкарыстаць сувязнога ў якасці сведкі сваёй добрасумленнасці.

У той жа вечар, нягледзячы на забарону Мяшчэрскага, Жабіч спрабаваў уцячы. Пры затрыманні ў цемры ён быў забіты. Але з гульні яго выключыць нельга. Ён — галоўная дзеючая асоба. Як жа быць?

Капітан Косцін далажыў кіраўніцтву свой план. Трэба рызыкнуць...

Халоднай лістападаўскай ноччу Мяшчэрскага праводзілі цераз лінію фронту з заданнем вярнуцца ў нямецкі разведвальны орган і далажыць, што

# ТРЫБУНА чытачоў

## Парадак у гміне

Справа ладу і публічнага парадку ў гміне Нараўка надта важная. Тут многа людзей працуе на розных прадпрыемствах, шмат прыязджае сюды турыстаў, таму вынікаюць розныя справы.

За апошнія пяць месяцаў мясцовы пастарунак міліцыі правёў 14 следстваў. 40 прапаноў накіраваў у калегію пры начальніку гміны. Карнымі мандатамі пакарана 40 разоў. Многа асоб павучана размовай. У гэтай нялёгкай працы памочнікамі міліцыі з'яўляецца 105-асабовая арганізацыя ОРМО.

Розныя былі злачынствы: прадукцыя самагонкі, гандаль гарэлкаю, пакража грамадскай і прыватнай маёмасці. Найбольш непакояць хуліганскія ўчынкі п'яных у мясцовым рэстаране, на чыгуначнай станцыі і ў раёнах перагрузкі тавараў. У рэстаране „Чар пушчы" надта часта прадаецца гарэлка без кантролю, людзям ужо п'яным, нягледзячы на пастановы нашага закону ў гэтай справе.

На некаторых прадпрыемствах (СКР Нараўка, цагляны завод у Ляўкове Старым) не заўсёды добра забяспечана грамадская маёмасць. Многа балагану на вясковых панадворках. Гаручыя матэрыялы часта перахоўваюцца дрэнна, што пагражае пажарам. Часта гаспадары выпальваюць траву каля лесу ці будынкаў.

На дарогах таксама больш парушэння правіл. Шафёры ездзяць не заўсёды цвярозыя, веласіпедысты без асвятлення. Летам асабліва трэба звярнуць увагу на раку і лес.

Улады гміны супольна з грамадскім актывам і актывам прадпрыемстваў прыкладаюць усе намаганні, каб небяспечныя і шкодныя праявы грамадскага жыцця ліквідаваць напачатку.

**Асот**

## На адну сям'ю

Пачынае сваю дзейнасць у Бельску кааператыў аднасямейных дамоў. На гэты год ён прыняў заявы на пабудову дамкоў для 8 жыхароў Бельска. Ахвотных ёсць больш. Кошт пабудовы аднаго такога домка каля 750 тысяч зл. Ужо вызначаны палеткі на далейшыя дамы. Яны будуюцца ўздоўж дарогі ў Пілікі.

**Мікалай Няплоха**

## Як лепш вырошчваць хлеб

У вёсцы Аўтустова, што на Бельшчыне, закончыўся сельскагаспадарчы курс. Запісалася на яго 54 асобы не толькі з Аўгустова, але і з суседніх вёсак — Парцава, Малінnік. Курс арганізавала і аплачвала Бельская гміна. Загадчыкам была працаўнік гміны Аліна Войцік, а выкладчыкам мгр інж. Барыслаў Рудкоўскі.

Да экзаменаў прыступіла 36 асоб, усе здалі. Дзве асобы здалі экзамен на выдатна. Выдатнікамі з'яўляюцца Ярэма Манаховіч і Войцех Калыска.

**М. Матвеюк**

---

Жабіч добра абсталяваўся, паспяхова працуе, але мае патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе. Разлік на тое, што Мяшчэрскі ўмацуе давер'е гітлераўцаў да Жабіча і Максімава, апраўдаўся. З разведоргана паступіла ўказанне падабраць месца для выкідвання грузу з самалёта. Указанне было выканана.

У вызначаны час фашысцкі самалёт з'явіўся над лесам кіламетраў за пятнаццаць ад Ольгіна. Месца глухое, ціхае. Аператыўныя работнікі запалілі на паляне кастры. Лётчык зрабіў круг і, знізіўшыся, скінуў два цюкі. Іх хутка знайшлі. Распакавалі: зімовае абмундзіраванне, запасныя часткі і сілкаванне для рацыі, прадукты, чыстыя бланкі розных дакументаў, грошы і кароткае пісьмо. Гітлераўскае камандаванне дзякавала за адданую службу, абяцала ўзнагароды і хуткую сустрэчу.

Зімой Чырвоная Армія разграміла нямецка-фашысцкія войскі пад Масквой.

Максімаў некалькі разоў выходзіў на сувязь з разведцэнтрам, але немцы некаторы час не адказвалі. Ім, відаць, не да таго было. Але затым сувязь устанавілася, і работа працягвалася.

У адзін з гэтых дзён Косцін дакладваў матэрыялы гульні свайму начальніку генералу Жураўлёву.

*(Працяг будзе)*

## Стрымалі слова

У студзені мінулага года „Ніва" апублікавала маю крытычную заметку „Не хапіла грошай", у якой гаварылася, што новая святліца ў Дубяжыне не была памалявана звонку, нішчэе, для вока непрыемна выглядае.

Гмінная ўправа ў Бельску Падляшскім абяцала працу давесці да канца і вось ёсць вынікі.

Нядаўна я ехаў дубяжынскай вуліцай і глядзеў на будынак святліцы. Ён ужо памаляваны. Як сказаў мне солтыс вёскі, маляванне святліцы пачалося ў канцы мая і закончылася ў палове чэрвеня.

Як бачым, гмінная ўправа ў Бельску Падляшскім стрымала слова. Дзякуй ёй за гэта!

**(ус)**

## У нашай вёсцы Боўтрыкі...

...правялі да солтыса тэлефон. Вельмі ён прыдатны нашым жыхарам. Напрыклад, цяпер: захварэў мой бацька. Забралі яго ў бальніцу і завезлі ў Саколку. Заехала я туды, але бацькі не бачыла, пачалі рабіць яму аперацыю. Чакала я пад дзвярыма чатыры з паловай гадзіны. Калі трэба было ехаць дахаты (пакінула пяцімесячнае дзіця), ён быў яшчэ пад наркозам.

На другі дзень (8.07.77) пайшла я да солтыса, каб пазваніць у бальніцу. Вельмі мы перажывалі і хацелі ведаць, як з бацькам. У солтыса тэлефоннай кніжкі няма, і я папрасіла на пошце ў Шымках начальніцу, каб заказала размову ў Саколку і дала мне нумар тэлефона ў бальніцу. Яна мне адказала, што не мае часу шукаць нумар і каб я прыйшла сама на пошту і пашукала (да Шымак ад нас 5 кіламетраў). Расказала я ёй, якая справа, і яшчэ раз прасіла. Пасля яна мне сказала, што размову заказала, але нумара тэлефону не дала, бо не ведае. Чакала я гэтай размовы па тэлефоне ад гадзіны 9 да 14.30. Не дачакалася.

Вельмі скардзяцца людзі на начальніцу пошты ў Шымках. Як закруне ёй у галаве, будзеш званіць дваццаць разоў, а яна трубкі не падыме. А ці Саколку яна мне заказала і чаму тэлефон не пазваніў столькі часу думаю, будзе каму праверыць. Чаму ў той дзень пасля гадзіны 15-ай брат мой, паехаўшы ў спулдзельню ў Бандары, дазваніўся за няпоўныя 30 мінут?

**М. Люшэўская**

## Сустрэча з ветэранам

У летнім маладзёжным лагеры ў школе № 1 у Чорнай Беластоцкай адбылася сустрэча з маёрам Віктарам Жураўскім. Чалавек гэты вельмі цікава расказаў аб сваім баявым шляху ў час другой сусветнай вайны. Ён ад 1920 года служыў артылерыстам у радах Чырвонай Арміі, а ад 1943 г. у Польскім Войску быў камандзірам дывізіёна цяжкай артылерыі.

Дзеці дасканала разумелі выкладчыка і слухалі яго, затаіўшы дыханне, а пасля засыпалі пытаннямі.

Сустрэчу арганізавала кіраўнік лагера Ірэна Закажэцкая.

**В. Петручук**

## ЗСМП у гміне

У гміне Нараўка дзейнічае 14 гуртkоў Саюза сацыялістычнай польскай моладзі. Гмінная арганізацыя налічвае 286 членаў. Больш актыўныя гурткі знаходзяцца ў Міклашэве, Скупаве і на цагляным заводзе ў Старым Ляўкове. Сярод дзеячоў вядучымі з'яўляюцца Галіна Дрозд, Юрка Казлоўскі і Данута Кісялеўская. У апошні час старшынёй гмінных улад ЗСМП стаў Пятро Каліноўскі.

**А. З.**

## Прыемна пачуць

Нядаўна сустрэў я знаёмую, якая даволі доўгі час жыве ў гайнаўцы. Было гэта ў пятніцу, і мая сумка была настолькі набіта газетамі, што цяжка і сказаць, нават багажнік матаролера не быў парожні.

„Вось, Коля, — гаворыць знаёмая, — „Нівы", відаць, найбольш маеш і гэта сапраўды найлепшая газета, якая ў нас ёсць. Я без „Нівы" жыць не магу і ўсё на яе старонках прачытваю".

Прыемна пачуць такое, тым больш, што, як сказала мая знаёмая, „Ніва" ў Гайнаўцы б'е рэкорд папулярнасці.

**М. Панфілюк**

## Аб нашай моладзі

Турызм добры і для здароўя, і для пашырэння ведаў. Сёння хачу затрымацца на адной форме турызму — для школьнай моладзі. Хачу сказаць аб вандроўных лагерах. Такая вандроўная група хлопцаў і дзяўчат мае некалькі важных мэт. Тут фізічная падрыхтоўка, бо свежае лясное паветра, тут і жыццё ў калектыве, уласнаручная падрыхтоўка ежы, пашырэнне ведаў, грамадская праца і г.д. Але паглядзім, як з гэтым бывае ў сапраўднасці.

Мне давялося пабываць у Нараўцы, паглядзець, пагутарыць з людзьмі. Аказваецца, моладзь некаторых лагераў не зусім добра арганізавана. Вось прыклады. Іду вуліцай і бачу, што ля рэстарана 20 (а мо і больш) хлопцаў і дзяўчат сядзяць на сходах, чакаючы абеда. З рэстарана выходзяць п'яныя, пераваньваюцца з боку на бок, зачапляюцца за седзячых дзяцей, за іх рэчы. А ці не лепш было б прыйсці дзецям на ўмоўленую гадзіну?

Але зноў бываюць і такія справы, што прыйдзе моладзь і разбягаецца па агародах, вырывае без дазволу гароднiну. На рэчку бягуць праз школьную агароджу, псуючы жалезную сетку. Ці так можна? Побач жа ёсць прыгожая сцяжынка. Часта моладзь скача праз вокны на вуліцу, а прахожыя глядзяць на гэта з пагардаю.

Расказалі мне іншы прыклад. Вось веласіпедны лагер з Познані. У іх запланавана кожная гадзіна. Моладзь наведала Нараўку і ваколіцу, у гміне даведалася аб яе гісторыі і сучасных праблемах. Вечарам наладзілі гарцэрскі касцёр на Плянце ля чыгуначнай станцыі. Далі цікавую мастацкую частку.

Думаю, што гэтыя два супрацьлеглыя прыклады будуць карысныя для арганізатараў вандроўных лагераў на будучыню. Выхоўваць моладзь трэба ў кожную хвіліну і на кожным месцы.

**Асот**

## Яны змагаліся ў дождж

На прыгожым стадыёне ў Супраслі ў вялікі дождж адбылася II ваяводская спартакіяда працаўнікоў сельскагаспадарчых гурткоў з Беластоцкага ваяводства. Былі СКР-ы з Гайнаўкі, Боцькаў Бельска, Кляшчэляў, Орлі, Шудзялава, Сідры. У праграме была лёгкая атлетыка і іншыя дысцыпліны, а таксама гульні, патрэбныя для здароўя, як бег з мяшком або з кніжкай на галаве.

Калектыўныя вынікі: у валейболе жанчын (да 30-гадовага ўзросту) перамог Бельск, а сярод старэйшых — перамог Заблудаў. Сярод мужчын (у тым самым парадку) Заблудаў і Орля. У агульнай пунктацыі ўжо другі раз першае месца заняў СКР Заблудаў, далей — Драгічын, Боцькі і Орля.

Хоць дождж ліў увесь час, алімпіяда прайшла добра, цікава і спраўна. Гэта таксама заслуга арганізатараў — Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў і Ваяводскага аб'яднання ЛЗС.

**(гай)**

## Уважаем, што бяда з ураджаем

На Сакольшчыне гаспадары садзяць шмат бульбы, бо з бульбы найлепшы тут даход. Восенню 1976 года рана выступілі прымаразкі, таму ГС-ы не змаглі купіць усяе бульбы, якую гаспадары хацелі прадаць. На вясну 1977 г. ГС-ы сталі купляць бульбу, але мала. Насенная цэнтраля купляла бульбу да паловы мая. З усіх навакольных вёсак везлі гаспадары бульбу ў цэнтралю. Але і тут не купілі ўсю бульбу. І так людзі забіралі бульбу назад дамоў. Цяпер яшчэ гаспадары маюць шмат старой бульбы, але няма каму яе купіць.

**Віт**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Пажары, пажары! Як трэба быць асцярожным з агнём летам! Асабліва, калі яшчэ дзе выступаюць саламяныя стрэхі. Вось, у вёсцы каля Драгічына згарэлі дзве стадолы і абора, крытая саломай, — поўна было свежага сена. На лузе каля Кнышына згарэў стог сена — 10 тон. У горадзе Лапы згарэла драўляная шопка. У вёсцы Саламянка згарэла драўляная, крытая саломай, стадола — уласнасць трох братоў.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ДЗЕ МОЙ ПОЕЗД?", „Ніва" № 25/1112 ад 19 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае:** CENTRALNA DYREKCJA OKRĘGOWA KOLEI PAŃSTWOWYCH ZARZĄD RUCHU W WARSZAWIE.

W związku z notatką prasową pt. „Gdzie mój pociąg?" zamieszczoną w 25/1112 numerze Waszego tygodnika z dnia 19 czerwca 1977 roku, dotyczącą połączeń pociągów pasażerskich na stacji Czeremcha, Zarządu Ruchu CDOKP uprzejmie informuje:

1. Utrata połączeń niektórych pociągów pasażerskich na stacji Czeremcha nastąpiła na skutek znacznego pogorszenia się stanu torów i obniżenia w związku z tym szybkości maksymalnej na odcinku Siedlce—Czeremcha—Siemianówka. Z uwagi na powyższe trudności czas jazdy pociągów pasażerskich na omawianym odcinku uległ wydłużeniu średnio do 30 minut. Mając na uwadze potrzeby przewozowe i trudności techniczne na sąsiednich odcinkach powiązanych komunikacyjnie z tą linią tak znaczne zmiany ruchu pasażerskiego nie mogą być na nich dokonane.
2. Z wyżej wymienionych przyczyn w obecnym rozkładzie jazdy pociągów Centralna Dyrekcja Okręgowa Kolei Państwowych nie może uzdrowić powyższej sytuacji.
3. Poprawa w tym zakresie nastąpi dopiero po zakończeniu remontu nawierzchni tj. w 1979 roku.

Za doznane utrudnienia w czasie podróży koleją uprzejmie przepraszamy pasażerów.

Naczelnik
wz. mgr inż. Henryk Bartosiewicz
Zastępca

**Да заметкі „ЯК НАС БАЧАЦЬ, ТАК НАС ПІШУЦЬ", „Ніва" № 26/1113 ад 26 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае:** PRZEDSIĘBIORSTWO ZAOPATRZENIA FARMACEUTYCZNEGO „CEFARM" W BIAŁYMSTOKU.

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Jak nas widzą, tak nas piszą", zamieszczoną w 26/1113 numerze Tygodnika „Niwa" z dnia 26 czerwca 1977 roku, Dyrekcja Przedsiębiorstwa Zaopatrzenia Farmaceutycznego „Cefarm" w Białymstoku uprzejmie wyjaśnia, że pracownikowi apteki nr 05-031 w Hajnówce zwrócono uwagę na staranną i uprzejmą obsługę klientów oraz dokładną informację odnośnie przyjmowania leków przepisanych na receptach.

Za zaistniały incydent przepraszamy i sądzimy, że nie będzie więcej powodów do tego rodzaju skarg. Personel apteki w Hajnówce znany jest bowiem z rzetelnej i ofiarnej pracy.

Z-ca Dyrektora
mgr Ryszard Lewicki

**Да заметкі „ШТО З КРАМАЙ У СПІЧКАХ?", „Ніва" № 20/1107 ад 15 мая 1977 года.**

**Адказвае:** URZĄD GMINY W ORLI.

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Co ze sklepem w Spiczkach?" Urząd Gminy w Orli informuje:

1. Otwarcie sklepu we wsi Spiczki jest zaplanowane na czwarty kwartał 1977 roku.
2. W trzecim kwartale br. Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Orli przeprowadzi remont budynku po byłej szkole podstawowej i z chwilą jego zakończenia otworzy sklep.

Z up. Naczelnika Gminy
Włodzimierz Jakimowicz
Inspektor d/s Handlu, Usług
i Gospodarki Komunalnej

**Да публікацыі „МАШЫНА Ў ГРАЗІ", „Ніва № 22/1103 ад 29 мая 1977 года.**

**Адказвае:** URZĄD GMINY W SZUDZIAŁOWIE.

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczona w tygodniku „Niwa" w 22/1103 numerze z dnia 29 maja 1977 roku informuję:

1. Remont drogi na odcinku Babiki—Suchenicze był prowadzony w dniu 15 maja bieżącego roku w czynie partyjnym i w najbliższym czasie będzie zakończony.
2. Do zniszczenia drzewek przydrożnych w znacznej mierze przyczynili się sami rolnicy ze wsi Suchenicze, a zwłaszcza ci, których pole znajduje się przy drodze z Babik do Suchenicz. Dlatego w przyszłym roku postanowiliśmy dokonać dodatkowego zadrzewienia przy tej drodze.

Naczelnik Gminy
Grzegorz Czarniewicz

**Да артыкула „МЯШОК СЯЛЯНСКАГА БОЛЮ", „Ніва" № 20/1107 ад 15 мая 1977 года.**

**Адказвае:** URZĄD GMINY W SZUDZIAŁOWIE.

W odpowiedzi na artykuł zamieszczony w Waszym tygodniku z dnia 15 maja br. informuję:

1. Skup warchlaków przez SKR Gródek był prowadzony bez mojej zgody, a SKR Szudziałowo w tym miesiącu płacił taką samą cenę za 1 kg i czynił duży wysiłek, aby skupić w tym miesiącu potrzebną ilość warchlaków na posiadane własne wolne stanowiska w ilości około 300 sztuk.
2. Waga w Babikach będzie zainstalowana w najbliższym czasie.
3. Odnośnie wypadnięcia żyta w okresie wiosennym u Ob. Maliszewskiego Konstantego informuję, że podobnych reklamacji było więcej. Dlatego spowodowałem przyjazd komisji z udziałem przedstawicieli Urzędu Wojewódzkiego, Białostockiego Przedsiębiorstwa Obrotu Nasionami oraz PISPAR w Białymstoku, która po zbadaniu sprawy udzieliła zainteresowanym osobom wyczerpującej odpowiedzi.

Naczelnik Gminy
Grzegorz Czarniewicz

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# ПЕРАСАЛІЛІ

Абедаць я звычайна дамоў езджу, хаця сталоўка знаходзіцца побач з установай, у якой я працую. Толькі не падабаюцца мне абеды ў сталоўцы. Шум, гвалт, месца не знойдзеш. Карацей кажучы, дамоў езджу.

Вось і зараз жонка хуценька накрыла стол і сказала:

— Не чакай нас, мы пасля паабедаем. Табе ж спяшацца трэба.

Гэта праўда, у нас на рабоце строга ставяцца да спазнення. Толькі глынуў я лыжку супу — і аж сківіцы звяло. Яшчэ адну паспрабаваў — слёзы пырснулі. Я нават ікнуў некалькі разоў.

— Пера... ік... — кажу жонцы, — ік... перасолена...

— Ты заўсёды знойдзеш да чаго прычапіцца, — сярдзіта сказала жонка. — Табе заўсёды то перасолена, то недасолена, то тлуста, то нішчымна, то густа, то рэдка. Тады сам сабе і вары. А то можаш і ў сталоўцы харчавацца... Перасаліла! Ды я, калі ты хочаш ведаць, як заўсёды, лыжку солі і паклала, так што капрызы свае не выстаўляй. — І жонка, злосна стукнуўшы дзвярыма, выйшла.

Напэўна, яна занадта моцна на мяне крычала, таму што тут жа з'явілася маці.

— Ну, навошта ты яе біў? — накінулася яна на мяне.

— Ды я не біў яе, — растлумачыў я маці сітуацыю, працягваючы ікаць. — Сказаў вось толькі, што суп перасолены.

— І-іх — сынок! — горка паглядзела яна на мяне. — Не шануеш ты нашы жаночыя клопаты... Суп сёння не павінен быць перасолены. Сама саліла. Як заўсёды дзве дробачкі ўсяго і паклала. Відаць, на рабоце ў цябе нейкія непарадкі, вось на жонцы злосць і ганяеш. Нядобра гэта! —І яна таксама бразнула дзвярамі.

— Якая муха вас сёння ўкусіла? — добразычліва запытала і бабуля, якая непрыкметна ўвайшла ў пакой. — Крык, дзвярамі стукаеце...

— Ды нічога такога не здарылася, — адказаў я, каўтаючы халодную ваду. — Суп перасолены. Толькі і ўсяго.

— Не балбачы абы-што! — раптам загарэлася бабуля. — Дарэмна крыўдзіш людзей, Міхола, грэх на душу бярэш. Суп, як суп. Сама яго саліла. Якраз дзве чайныя лыжачкі паклала. Як заўсёды.

— Сястра! — паклікаў я, калі бабуля гэтак жа непрыкметна выйшла з пакоя. — Сястра, ты сёння суп саліла?

— С-саліла, — спалохана сказала сястра, выглядаючы з суседняга пакоя. — Дзве дробкі. А што, мала, напэўна? Недасолены?

Я не паспеў ёй адказаць. У пакой увайшла жонка. За ёй з рашучым выглядам маці і бабуля... Я не буду расказваць пра тую буру, якая зашумела над маёй галавой. Шум, гвалт, адным словам... Карацей кажучы, пакуль я абедаю ў сталоўцы...

**Віт. Енеш**



# НІЎКА



— *Вася, не заплывай далёка!*

### У ШКОЛЕ

— Ведаеце, дзеці, што леў — цар жывёл, што ён не баіцца нікога на свеце.

— Не, пане настаўнік, ён баіцца львіц, — адказаў Міколка.



## МІНІВЕРШЫ

### ВАРОНЫ — АРЫГІНАЛЫ

*— Усе прызналі славу салаўя,*
*А не прызналі толькі ты ды я.*

### АСЁЛ СУМНЯВАЕЦЦА

*Ці не занадта многа вострых слоў*
*Аб тупасці і ўпартасці аслоў?*

### КАРОТКАЕ ІМЯ

*Без псеўданімаў мей адно імя:*
*Заўжды, ва ўсім*
*кароценькае — Я.*

### ДЫМ ЗАЯЎЛЯЕ

*— Са мной пасацыярожней, — кажа дым, —*
*З агнём жыву дыханнем я адным.*

**М. Мінчанка**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Афандзі завітаў на стадыён паглядзець гульню ў футбол. У самы разгар гульні ён крануў за плячо суседа і сказаў:

— Па ўсім відаць — наш варатар вельмі сардэчны і гасцінны чалавек.

— Чаму вы так рашылі?

— Хіба ж не бачыце, як ён мячы прапускае, каб не пакрыўдзіць гасцей!

*

Уладальнік магазіна оптыкі абучае маладзенькага прадаўшчыка майстэрству гандлю:

— Калі ты падбярэш кліенту акуляры і ён спытае аб цане, адказвы: „Дзесяць долараў" і чакай, ці не ўздрыгне ён. Калі нічога не прыкмеціш, усміхніся і скажы: „Зразумела, гэта толькі за аправу. Шкла каштуюць яшчэ дзесяць долараў". І зноў сачы за яго рэакцыяй.

— Ну, а калі ён не ўздрыгне і на гэты раз?

— У такім выпадку дадай: „Кожнае".

*

— Афіцыянт! Што за куранятка вы мне прынеслі — адна скура ды косці!

— Выбачайце, сэр, на жаль, усе пер'і гаспадыня расходавала на набіўку падушак.



...Мог бы патрапіць у рай, ды згубіў ключы.

### ЧЫЙ ТАТА ЛЕПШЫ?

Размаўляюць дзве трохгадовыя дзяўчынкі.

— Мой тата дужы.
— А мой дужэйшы.
— Мой тата добры.
— А мой дабрэйшы.
— Мой тата п'яны.
— А мой п'янейшы.

### ПАДСТАВА

— Дай мне трыццаць злотых, а то я ўвесь аванс учора патраціў на выпіўку.

— З якога выпадку была выпіўка?

— З выпадку авансу.

### З ГІСТОРЫІ СПОРТУ



*Перад тым, як з'явілася гімнастыка на перакладзіне.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Яна Заброцкага з Бельска змяшчаем песню*

## Z dalekich wypraw

**słowa: Adam Sikorski**
**muzyka: Romuald Lipko**
**śpiewa: Budka Suflera**

Myśli wychodzą z cienia
Coś w człowieku się zmienia
I powracam z wyprawy na słoneczny ląd
Oto znowu dni ruszyły, serce bije mocno, szybko
i nie rzucam ciągle słowa, słowa sens, tylko znowu

Biec przez tłoczne chcę ulice
Zwykłym życiem się zachwycać
Bo widziałem jak wygląda mroczny brzeg.
Tylko w porze wieczornej bluesa koniem szalonym
Na wyprawy się wypuszczam, gdzie bywałem już...

### ФОРМУЛА

Прафесар: „Напішыце мне на дошцы формулу мелу. Не ведаеце? Ну, добра, тады я вам прадыктую. Пішыце так... Напісалі? Цудоўна!. Што азначае гэта формула? Не здагадваецеся? Ну, падумайце, падумайце! Што вы трымаеце ў руцэ? Ну? Ну ж!"

Абітурыент: „Анучку, прафесар".

### ПАДХАЛІМ

Адзін падхалім паехаў на паляванне са сваім начальнікам і яго сябрамі. І падхалім бясконца хваліў свайго начальніка як меткага стралка.

Раптам з лесу выбегла ліса. Начальнік схапіў ружжо, выстраліў і... прамахнуўся. Збянтэжаны падхалім схапіўся за галаву і залементаваў.

— Божа мой, божа мой! Упершыню бачу, каб забітая ліс̆іца пабегла ў лес.

# КУРЁЗЫ

### ГРУШАВЫЯ ХВАЛЯВАННІ

Ніхто з жыхароў невялікага баварскага гарадка Дорфен не памятае, хто і калі пасадзіў гэта грушавае дрэва. Некаторыя нават сцвярджаюць, што яно „было заўсёды". Гіды-добраахвотнікі з задавальненнем водзяць заезджых турыстаў паглядзець на цуд-грушу. І сапраўды, яе галіны растуць даволі своеасаблива. Яны распласталіся ўздоўж сцяны двухпавярховага прыватнага дома, акуратна абыйшоўшы вокны. Гіды сцвярджаюць, што гэта зусім не справа рук нейкага майстра-садавода, а так, маўляў, вырасла само па сабе.

Але вось нядаўна ўвесь Дорфен быў усхваляваны. Новыя гаспадары дома заявілі, што ссякуць грушу. „Мы стаміліся ад турыстаў, — сказалі яны карэспандэнту газеты „Інтэрнэшнл геральд трыбюн". — Паспрабуйце сто разоў на дзень тлумачыць кожнаму, чаму гэтае праклятае дрэва так вырасла. І, да таго ж, мы хочам будаваць новае крыло дома, а груша перашкаджае".

У Дорфене ўзнік цэлы рух у абарону грушы. Мяркуюць, што гарадскія ўлады прымуць да ўвагі грамадскую думку і возьмуць дрэва пад абарону.



### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Што робіш?
— Адпачываю.
— А да гэтага што рабіў?
— Спаў.
— Дык чаму ж ты адпачываеш?
— Бо пасля сну і адпачыць добра.



*Ідучы наперад, не забудзься агледзецца назад.*